# Голас Радзімы

№ 4 (2094)
26 студзеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Напярэдадні Новага года быў узведзены інжынерна-лабараторны корпус Мінскага гадзіннікавага завода. Неардынарная архітэктурная канструкцыя будынка адразу прыцягнула да сябе ўвагу жыхароў і гасцей беларускай сталіцы... [Аб гэтым расказваецца ў экспрэс-інтэрв'ю на стар. 2].

Фота С. КРЫЦКАГА.

# ПАВЕДАМЛЕННЕ

## ўрадавай камісіі, створанай рашэннем Савета Міністраў БССР ад 14 чэрвеня 1988 г.

У састаў урадавай камісіі былі ўключаны: Мазай Н. М.—намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР (старшыня камісіі); Тарнаўскі Г. С.—пракурор БССР (першы намеснік старшыні камісіі); Андрэеў А. Я.— старшыня Рэспубліканскага савета ветэранаў вайны і працы (намеснік старшыні камісіі); Бязручка Т. М.— рабочая вытворчага аб'яднання «Інтэграл», намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР; Белая М. П.— дэпутат Бараўлянскага сельскага Савета народных дэпутатаў; Быкаў В. У.— народны пісьменнік БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі, Герой Сацыялістычнай Працы; Данілаў Г. І.— загадчык аддзела адміністрацыйных органаў Мінскага абкома Кампартыі Беларусі; Дулаў А. В.— загадчык кафедры крыміналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, доктар юрыдычных навук, прафесар; Даргель В. Б.— намеснік старшыні Мінскага аблвыканкома; Каравай У. С.— старшыня Вярхоўнага суда БССР; Кішкурна П. П.— намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома; Караткоў В. І. — ваенны камісар БССР; Кавалёў В. А. — першы намеснік міністра ўнутраных спраў БССР; Недзяляй І. С.— загадчык аддзела адміністрацыйных органаў Кіраўніцтва справамі Савета Міністраў БССР; Осіпава М. Б.— Герой Савецкага Саюза, удзельніца Мінскага камуністычнага падполля і партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны; Савіцкі М. А.— народны мастак СССР; Семянкоў В. І. — член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, доктар юрыдычных навук, прафесар; Сікорскі П. П. — старшыня Мінскага райвыканкома; Чарвякоў Д. І.— Герой Сацыялістычнай Працы, токар вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна; Чыгрынаў І. Г.— пісьменнік, старшыня праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры; Шыркоўскі Э. І.— першы намеснік старшыні КДБ БССР.

Да работы ўрадавай камісіі былі прыцягнуты вучоныя Акадэміі навук СССР і Беларускай ССР, Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, спецыялісты Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі (г. Ленінград), Беларускага філіяла Саюзгіпралясгаса, Навукова-даследчага інстытута судовых экспертыз Мінюста БССР, Мінскай лесапаркавай гаспадаркі, абутковага вытворчага аб'яднання «Прамень», супрацоўнікі органаў пракуратуры, юстыцыі, унутраных спраў, дзяржаўнай бяспекі, аховы здароўя, дэпутаты Саветаў народных дэпутатаў, прадстаўнікі грамадскасці, сродкі масавай інфармацыі.

Работа камісіі выклікала шырокую грамадскую цікавасць. Аб гэтым сведчаць шматлікія звароты ў камісію і рэдакцыі сродкаў масавай інфармацыі грамадзян, якія пражываюць не толькі ў рэспубліцы, але і ў іншых рэгіёнах краіны.

Работа камісіі асвятлялася ў друку, па радыё і тэлебачанні.

У сваёй дзейнасці камісія выкарыстала наяўныя архіўныя дакументы, заключэнні экспертыз, матэрыялы крымінальнай справы, узбуджанай Пракуратурай БССР па факту выяўлення пахаванняў ва ўрочышчы Курапаты.

Пры абследаванні ляснога масіву Курапаты ўстаноўлена, што на плошчы каля 30 гектараў ёсць 510 мяркуемых пахаванняў.

Урадавай камісіяй было прынята рашэнне аб правядзенні выбарачнай эксгумацыі мяркуемых пахаванняў. Да ўдзелу ў раскопках, праведзеных па археалагічнай методыцы, прыцягваліся спецыялісты-археолагі Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, судовыя медыкі, крыміналісты, дэпутаты Мінскага раённага і Бараўлянскага сельскага Саветаў. Пры эксгумацыі выяўлены чалавечыя астанкі, асабістыя рэчы і іх фрагменты.

У экспертных і іншых установах праведзена 38 судовых экспертыз па даследаванню 3 080 аб'ектаў, выяўленых у пахаваннях, у тым ліку ў Рэспубліканскім бюро судова-медыцынскай экспертызы Міністэрства аховы здароўя БССР ажыццёўлена 5 комплексных экспертыз па даследаванню касцявых астанкаў.

У навукова-даследчым інстытуце судовых экспертыз Мінюста БССР выканана балістычная экспертыза знойдзеных гільз і куль, праведзена 18 крыміналістычных экспертыз па фрагментах абутку, манетах, рэштках адзення, іншых прадметах асабістага ўжытку.

Экспертамі Гандлёва-прамысловай палаты БССР праведзена таваразнаўчая экспертыза выяўленых рэчаў, якія маюць маркіровачныя абазначэнні.

У Акадэміі навук БССР ажыццёўлены лазерны аналіз асобных доследуемых аб'ектаў.

У выніку праведзенай работы камісія ўстанавіла наступнае:

Эксгумаваныя з месцаў пахавання астанкі належаць не менш чым 356 чалавекам. На большасці чарапоў выяўлены агнястрэльныя пашкоджанні ў патыліцы і скронева-цемяннай часткі.

Знойдзеныя гільзы і кулі з'яўляюцца часткамі патронаў да рэвальвера «наган» і пістолета «ТТ». Гэтыя гільзы і кулі выраблены ў СССР у 1928—1939 гадах.

На некаторых асабістых рэчах і прадметах абутку, якія найбольш захаваліся, ёсць маркіроўка ў выглядзе фірменных знакаў і надпісаў.

Даследаванне выяўленых у магілах фрагментаў адзення, абутку, іншых прадметаў і асабістых рэчаў дае падставу меркаваць, што сацыяльны састаў расстраляных быў даволі шырокім.

Зыходзячы з таго, што ў сярэднім у кожнай з эксгумаваных магіл знойдзены касцявыя астанкі, якія належаць 50—60 чалавекам, можна зрабіць вывад аб пахаванні ў лясным масіве Курапаты не менш як 30 тысяч грамадзян. Устанавіць больш дакладную іх колькасць к цяперашняму часу не было магчымым.

Як сцвярджалі відавочцы (55 чалавек), расстрэлы пачаліся ў 1937 годзе і працягваліся да лета 1941 года. Участак лесу, дзе рабіліся пакаранні смерцю і праводзіліся пахаванні, быў абнесены агароджай у 1937—1938 гадах. У час фашысцкай акупацыі лес быў высечаны, а агароджа разабрана. Паводле заключэння спецыялістаў, узрост дрэў, якія зноў выраслі на месцах пахаванняў, складае ад 35 да 46 гадоў.

У архівах Мінюста, КДБ, МУС і Пракуратуры БССР, саюзных органаў матэрыялаў і дакументаў, што адносяцца да падзей у Курапатах, не знойдзена.

Азнаямленне з практыкай афармлення архіўных дакументаў, у тым ліку і крымінальных спраў на асоб, рэпрэсіраваных у 1937—1941 гадах, паказала, што органы НКУС не складалі дакументаў з указаннем месцаў расстрэлаў і пахаванняў.

Камісіяй прымаліся меры па выяўленню былых работнікаў НКУС БССР, якія прымалі ўдзел у 1937—1941 гадах у расследаванні спраў так званых «ворагаў народа». Вывучэннем архіўных крымінальных спраў на рэабілітаваных у 1950—1960 гадах грамадзян выяўлена звыш 40 прозвішчаў такіх работнікаў. Як устаноўлена, многія з іх у перыяд рэпрэсій былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці і расстраляны.

Так, Малчанаў Г. А., 1897 года нараджэння, які быў наркомам НКУС БССР з 28.11.36 па 04.02.37 года, прыгавораны да вышэйшай меры пакарання 2 лістапада 1937 г.

Берман Б. Д., 1901 года нараджэння, працаваў на той жа пасадзе з 04.03.37 па 22.05.38 года, 22 лютага 1939 г. прыгавораны да расстрэлу.

Наседкін А. А., 1897 года нараджэння, які з'яўляўся наркомам НКУС БССР з 22.05.38 па 17.12.38 года, 25 студзеня 1939 г. прыгавораны да пакарання смерцю.

Цанава Л. Ф., 1900 года нараджэння, на названай пасадзе з 17.12.38 па 30.10.51 года, 12 кастрычніка 1955 г. у сувязі з расследаваннем супраць яго крымінальнай справы пакончыў жыццё самагубствам.

Камісія ў выніку аналізу наяўных матэрыялаў прыйшла да вываду, што ў 1937—1941 гадах у лясным масіве Курапаты органамі НКУС праводзіліся масавыя расстрэлы савецкіх грамадзян.

Устанавіць асобы загінуўшых, канкрэтныя матывы пакаранняў смерцю і асоб, якія выконвалі прыгаворы і рашэнні несудовых органаў у 1937—1941 гадах, пакуль не з'яўляецца магчымым.

Урадавая камісія ўнесла прапановы ў Савет Міністраў БССР аб увекавечанні памяці ахвяр рэпрэсій 1937—1941 гадоў, пахаваных у лясным масіве Курапаты.

Камісіяй прызнана таксама неабходным даручыць:

Міністэрству культуры БССР сумесна з Саюзам мастакоў БССР, Саюзам архітэктараў БССР і Беларускім аддзяленнем Савецкага фонду культуры правесці адкрыты конкурс на праект помніка.

Дзяржбуду БССР, Міністэрству культуры БССР, Мінскаму гарвыканкому сумесна з Саюзамі мастакоў і архітэктараў БССР распрацаваць праектную дакументацыю на ўзвядзенне помніка і ўпарадкаванне тэрыторыі ляснога масіву.

Міністэрству культуры БССР сумесна з Міністэрствам фінансаў БССР унесці прапановы аб фінансаванні затрат, звязаных з правядзеннем конкурсу і будаўніцтвам указанага помніка.

Камісія ўнесла таксама і іншыя прапановы.

Урадавая камісія прадоўжыць сваю работу па пошуку архіўных дакументаў і матэрыялаў, што адносяцца да падзей у Курапатах, а таксама сведак з мэтай устанаўлення асоб загінуўшых, канкрэтных матываў пакаранняў смерцю і асоб, якія іх ажыццяўлялі.

Камісія зноў звяртаецца да ўсіх грамадзян, якім што-небудзь вядома аб гэтых і іншых трагічных падзеях, інфармаваць урадавую камісію або Пракуратуру БССР.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

## ЯШЧЭ АДНА «ВІЗІТНАЯ КАРТКА»?..

**Уражвае не сам дванаццаціпавярховы інжынерна-лабараторны корпус, а больш яго вежа з чатырма гадзіннікамі. Цыферблаты іх звернуты строга ў напрамку ўсіх частак свету: усход, поўдзень, захад, поўнач. За многія сотні метраў бачна збудаванне, якое госці беларускай сталіцы паспелі назваць яшчэ адной «візітнай карткай» Мінска.**

**Наш карэспандэнт сустрэўся з намеснікам галоўнага інжынера гадзіннікавага завода Анатолем КРУПЕНКАМ і папрасіў адказаць на некалькі пытанняў.**

**— АНАТОЛЬ ЯКАЎЛЕВІЧ! ЦЯПЕР УЖО МОЖНА КАЗАЦЬ, ШТО ГЭТЫ БУДЫНАК ДОБРА ЎПІСАЎСЯ НЕ ТОЛЬКІ Ў ЗАВОДСКІЯ КАРПУСЫ, АЛЕ І Ў АРХІТЭКТУРНЫ АНСАМБЛЬ ЛЕНІНСКАГА ПРАСПЕКТА. ЦІ БЫЛІ СЯРОД МІНЧАН НЕЗАДАВОЛЕНЫЯ БУДАЎНІЦТВАМ?**

— Для мінчан Ленінскі праспект — гордасць, галоўная вуліца беларускай сталіцы. Будаўніцтва гэтай магістралі практычна завершана. І ўсякі новы штрышок, рэканструкцыя ці ўзвядзенне чаго-небудзь, можа не толькі не ўпрыгожыць праспект, а пашкодзіць яго выгляду.

Гэта адзін бок справы. Другі — ішло будаўніцтва няхай і інжынерна-лабараторнага, але ўсё ж заводскага корпуса. Ды яшчэ ледзь не ў самым цэнтры горада. Тут адразу прыйшлося супакоіць гараджан: гадзіннікавая вытворчасць самая бясшкодная і практычна ніякай небяспекі для жыхароў не прадстаўляе.

**— І ЎСЁ Ж, НАПЭЎНА, ПАТРЭБНА БЫЛА СМЕЛАСЦЬ, КАБ РАСПАЧАЦЬ ТАКОЕ БУДАЎНІЦТВА НА ПРАСПЕКЦЕ!**

— Калі гаварыць адкрыта, то будаўніцтва стала для нас вымушаным. Некалі мы толькі займаліся зборкай гадзіннікаў. Камплектуючыя атрымлівалі з іншых прадпрыемстваў. Цяпер жа вузлы і дэталі вырабляем самі. Больш таго, наш завод адзінае ў СССР прадпрыемства, якое забяспечвае распрацоўку і выраб інтэгральных мікрасхем для сябе і іншых заводаў краіны. Пачалі выпуск устройстваў да кварцавых гадзіннікаў таксама для многіх заводаў краіны. Нарэшце і для сябе, і для іх сталі вырабляць станкі. А для ўсяго гэтага не хапала плошчы, патрэбна было сканцэнтраваць у адным месцы інжынерна-тэхнічныя кадры. Адначасова выслабанілі былыя плошчы заводакіраўніцтва пад вытворчыя.

**— АЛЕ Ж, ЯК КАЖУЦЬ, ВЫНОСІЦЬ НА ПРАСПЕКТ «ГОЛЫ» АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ КОРПУС ВАМ НЕ ДАЗВОЛІЛІ Б ГАРАДСКІЯ ЎЛАДЫ. ПАТРЭБНА БЫЛА ЭСТЭТЫКА!**

— Мы гэта прадбачылі. Таму і звярнуліся да галоўнага мастака Мінска з прапановай на корпусе пабудаваць вежу з гадзіннікамі. І такі дазвол быў атрыманы.

**— РАСКАЖЫЦЕ КРЫХУ АБ ГЭТЫХ ГАДЗІННІКАХ.**

— Дырэкцыя прадпрыемства даручыла зрабіць іх спецыяльнай групе, якую ўзначаліў намеснік загадчыка аддзела надзейнасці завода Яўген Кеслер. На ўсю работу было затрачана тры месяцы. Не скажу, каб усе дэталі зрабілі мы самі, прыйшлося звяртацца, напрыклад, у Арменію, але большасць аперацый выканалі заводскія майстры.

Вось кароткая характарыстыка гадзіннікаў на вежы. Плошча цыферблатаў 8 на 8 метраў. Вага мінутнай стрэлкі — 18 кілаграмаў, стрэлка, якая адлічвае гадзіны, — 12 кілаграмаў... Магчыма нешта будзе зменена і ўдасканалена ў далейшым.

**— ДА ТАГО Ж ВЕЖА З ГАДЗІННІКАМІ СТАЛА ДОБРАЙ РЭКЛАМАЙ ДА ВАШЫХ ВЫРАБАЎ!**

— Кожнае прадпрыемства дбае аб рэкламе. Але і да гэтых гадзіннікаў нашы вырабы добра ведалі. Цяжка назваць усе краіны, дзе можна ўбачыць гадзіннікі мінскай маркі. Яны паспяхова вытрымліваюць канкурэнцыю на сусветным рынку. З 5,5 мільёна гадзіннікаў, якія выпускаюцца штогод, значная частка ідзе на экспарт. Нашы вырабы вызначаюцца высокай дакладнасцю, якасцю. Канструктары пастаянна працуюць над новымі маркамі, мастацкім афармленнем іх. Сёлета, напрыклад, мы асвойваем выпуск жаночых гадзіннікаў з дыяметрам цыферблата, меншым за дыяметр капейкі. І гэта не апошняя навінка, якая зацікавіць і нашага, і замежнага пакупніка.

У заключэнне кароткай гутаркі хацеў бы звярнуць увагу на той факт, што з узвядзеннем інжынерна-лабараторнага корпуса рэканструкцыя і будаўніцтва прадпрыемства не завершана. Ужо падрыхтаваны, напрыклад, катлаван пад новы вытворчы корпус, з уводам якога павялічыцца выпуск гадзіннікаў з маркай «Прамень» для ўнутранага і замежнага рынку.

*ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ВУЧОНАГА*

# САЦЫЯЛІЗМ ШТУРМАМ НЕ ПАБУДАВАЦЬ

**Пачатае ў СССР абнаўленне грамадства прымусіла па-новаму зірнуць на шлях, пройдзены краінай з 1917 года, нанава асэнсаваць тэорыю і практыку сацыялізму. Па сутнасці, у ходзе перабудовы робіцца спроба на аснове ленінскага бачання сацыялізму і з улікам сучаснай рэчаіснасці перайсці да новай гістарычнай мадэлі сацыялізму. Аб гэтым ідзе размова ў серыі артыкулаў прафесара Агдаса БУРГАНАВА.**

Да нядаўняга часу канцэпцыя сацыялізму ў СССР лічылася настолькі яснай, што яна не падвяргалася сумненню і не даследавалася. За яе прымаўся «ленінскі план будаўніцтва сацыялізму», які складаўся з трох частак і які даўно зацвердзіўся ў навуцы: індустрыялізацыя краіны, калектывізацыя сялянства і культурная рэвалюцыя. Фарсіраванае выкананне гэтага плана і было асновай пабудовы сацыялістычнага грамадства.

Аднак на практыцы аказалася, што праблема будаўніцтва сацыялізму больш складаная. Высветлілася, што ў СССР няма яго цэласнай мадэлі і, значыць, яе трэба яшчэ распрацоўваць. З'явіўся і такі пункт гледжання, што вытокі сталінізму знаходзяцца ў дактрынах марксізму, у праліках і памылках самога рабочага руху, за якія Сталін «асабіста не нясе ніякай адказнасці», што ён будаваў сацыялізм у адпаведнасці з прадвызначэннямі тэорыі, спрабаваў, як мог, паскорыць рух Расіі да камунізму, пачаты ў кастрычніку 1917 года. Сцвярджаюць, што ў аснове навуковага сацыялізму — камандная мадэль, татальнае абагульненне сродкаў вытворчасці. Гэта значыць атрымліваецца, што, паводле Маркса, сацыялістычная эканоміка павінна будавацца на прамым прадуктаабмене і абсалютным дырэктыўным планаванні зверху.

Поўнай яснасці ў пытанні аб тым, у якім грамадстве мы жывём і да чаго прыйдзем у выніку перабудовы, пакуль яшчэ няма. Але ёсць поўная яснасць, што сталінская мадэль сацыялізму бясплодная, яна вядзе ў тупік.

У ходзе перабудовы мы імкнёмся вярнуцца да ленінскай канцэпцыі сацыялізму. У яе станаўленні і развіцці назіраюцца два асноўныя этапы. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі яна зыходзіла са сфармуляванага класікамі марксізму палажэння аб тым, што пралетарыят, прыйшоўшы да ўлады, вырывае ў буржуазіі крок за крокам увесь капітал, цэнтралізуе ўсе прылады вытворчасці ў руках дзяржавы, — у імя больш хуткага павелічэння сумы прадукцыйных сіл. Пралетарскую дзяржаву Маркс лічыў неабходнай толькі на перыяд барацьбы за разбурэнне старога грамадства: яна, на яго думку, адпадзе пасля вызвалення пралетарыяту, падаўлення класавых ворагаў. З гэтага моманту дзяржава перастане існаваць, гэта значыць яна, стаўшы цяпер «паўдзяржавай», павінна была б пачаць адміраць.

Перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй Ленін пісаў: «Сацыялізм ёсць не што іншае, як дзяржаўна-капіталістычная манаполія, якая **звернута на карысць усяго народа**, і якая таму **перастала** быць капіталістычнай манаполіяй». «**Усе** грамадзяне ператвараюцца тут у служачых па найму ў дзяржавы, якой з'яўляюцца ўзброеныя рабочыя. Усе грамадзяне становяцца служачымі і рабочымі **аднаго** ўсенароднага, дзяржаўнага «сіндыката».

Бальшавікі, прыйшоўшы да ўлады ў кастрычніку 1917 года, пачалі з адзяржаўлення галоўнага сродку вытворчасці ў сялянскай краіне—зямлі. Затым (першапачаткова як бы ў адказ на сабатаж буржуазіяй рабочага кантролю) правялі нацыяналізацыю банкаў, транспарту, сродкаў сувязі, заводаў, фабрык і іншых прамысловых аб'ектаў. Тым самым партыя спрабавала хутка стварыць беспатаварную гаспадарку метадам рэвалюцыйнага насілля.

Ленін, аднак, хутка зразумеў, што пераход з аднаго этапу развіцця грамадства ў іншы патрабуе і іншых метадаў яго будаўніцтва. Асабліва рэльефна і ярка высвецілася гэтая праблема ў барацьбе з «левым камунізмам». Ленін тады гаварыў, што адразу пасля перамогі рэвалюцыі «гвалтоўныя бягучага моманту» была рашучая нацыяналізацыя і канфіскацыя капіталу, трэба было біць і дабіваць буржуазію, змагацца з сабатажам. Сёння ж толькі сляпыя не бачаць, працягваў Ленін, што пралетарыят больш нацыяналізаваў, наканфіскаваў, набіў і наламаў, чым паспеў падлічыць. Пераадолеўшы супраціўленне «левакамуністычнай» апазіцыі і іншых левакоў, савецкае грамадства ўжо ў 1918 годзе спрабавала перайсці да новага фазісу барацьбы з буржуазіяй, да прынцыпаў той эканамічнай палітыкі (НЭП), якая пачалася ў 1921 годзе. Думалася, што пераадоленне капіталізму ў эканоміцы будзе насіць больш працяглы характар і ажыццяўляцца праз сістэму памаёмаснага і падаходнага падатку, выкарыстання буржуазных спецыялістаў і г. д., гэта значыць зусім не метадам «чырвонагвардзейскай атакі на капітал», якія ў асноўным прымяняліся ў гэты час. Але іншаземныя ваенныя інтэрвенцыі і грамадзянская вайна, якія неўзабаве пачаліся, спынілі гэтыя спробы. Горш таго: у сувязі з вычарпаннем рэсурсаў эканомікі і ў той жа час крайняй неабходнасцю стварэння шматмільённай Чырвонай Арміі, забеспячэння яе і гарадскога насельніцтва прадуктамі харчавання, фабрык і заводаў — сыравінай, дзяржава вымушана была ўвесці палітыку ваеннага камунізму. Яе састаўнымі элементамі сталі дзяржаўная манаполія на ўсю вытворчасць, забеспячэнне зверху, [illegible]жывецкія камуны, бясплатнасць размеркавання. Але галоўным у ёй была харчовая развёрстка, якая азначала фактычнае адзяржаўленне сялянскай вытворчасці.

Ваенны камунізм садзейнічаў мабілізацыі ўсіх (ужо мізэрных да таго часу) рэсурсаў, сродкаў грамадства, якія паддавал[illegible] яшчэ мабілізацыі, для перамогі над знешнімі і ўнутранымі ворагамі Савецкай улады. У той жа час ён прывёў да таго, што пралетарская дзяржава к канцу грамадзянскай вайны аказалася перад фактам крызісу, больш небяспечнага, чым сілы контррэвалюцыі, разам узятыя, таму што канкрэтна вызначыўся раскол паміж рабочымі і сялянамі, адыход другіх ад саюза з першымі. Пачаліся выкліканыя незадавальненнем харчразвёрсткай сялянскія хваляванні, успыхнуў кранштацкі мяцеж. Страшны голад 1920—1921 гадоў з'явіўся вынікам не толькі і, магчыма, не столькі засухі, колькі недасеву сялянамі палёў з-за нязгоды з харчразвёрсткай, якая прадугледжвала канфіскацыю хлебных лішкаў (і не толькі лішкаў) у сялян дзяржавай.

Ленін, растлумачваючы непазбежнасць увядзення палітыкі ваеннага камунізму, потым адзначыў, што трэба ведаць і меру яе неабходнасці. Што яна была памылковай, таму што з'явілася не толькі вынікам умоў працы, але і адпаведнага бачання сацыялізму— паводле сённяшняй тэрміналогіі—як дзяржаўнага. Партыя, не маючы вопыту пабудовы новага грамадства, зыходзіла большай часткай з меркаванняў аб непасрэдным пераходзе да сацыялістычнага будаўніцтва праз стварэнне дзяржаўнай вытворчасці і размеркавання. Ленін, думаецца, к канцу грамадзянскай вайны зразумеў, што гісторыя зыранізавала ў звычайным сваім духу: Кастрычніцкая рэвалюцыя, ажыццёўленая пад лозунгамі «Зямлю — сялянам!», «Фабрыкі, заводы — рабочым!», прывяла зусім не да гэтых вынікаў.

К вясне 1921 года стала відавочна, што партыя цярпіць паражэнне ў спробе штурмам непасрэдна перайсці да стварэння сацыялістычнай вытворчасці і размеркавання. Трэба было адступаць на пазіцыі дзяржаўнага капіталізму, перайсці ад «штурму» да «асады», каб забяспечыць эканамічны пераход да асновы сацыялізму. Аднавіўшы правільную сістэму эканамічных адносін, можна было б аднавіць разбураную дробную сялянскую гаспадарку, а затым аднавіць і падняць на яе плячах буйную прамысловасць.





Першых адпачываючых прыняў санаторый-прафілакторый Жодзінскага швейна-трыкатажнага аб'яднання, які размясціўся на беразе ракі Плісы. Утульныя пакоі і холы, комплекс спартыўных збудаванняў, добрае медыцынскае забеспячэнне — усё разлічана на паўнацэнны адпачынак. А летам сюды прыедуць бацькі з дзецьмі.

**НА ЗДЫМКАХ:** санаторый-прафілакторый Жодзінскага швейна-трыкатажнага аб'яднання; не пустуе більярдная; да дыскатэкі рыхтуюцца работніцы аб'яднання кантралёр Ніна САКАЛОЎСКАЯ, швачкі-мататысткі Марына САЛОМЕНЦАВА і Анжэла ПАСКОННАЯ.

Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.



## КАМП'ЮТЭР ВУЧЫЦЦА ТВАРЫЦЬ

Што павінна ляжаць у аснове інтэлекту камп'ютэра? Адказ на гэта, яшчэ ўчора далёкае ад практыкі пытанне атрымалі не спецыялісты па тэхнічнай кібернетыцы, як можна было чакаць, а... мовазнаўцы. У Інстытуце мовазнаўства АН БССР лінгвісты сумесна з матэматыкамі распрацавалі універсальны семантычны код і яго праграмны варыянт, якія дазваляюць надзяліць інтэлектуальнымі характарыстыкамі ўжо дзеючыя машыны.

Новаўвядзенне вызначаецца тым, што ў мову ўбудавана логіка дзеянняў у незнаёмай сітуацыі, і камп'ютэр, сутыкнуўшыся з цяжкасцямі, пачынае сам сабе задаваць пытанні, сам адказвае на іх і так рухаецца да мэты. Але, каб задаваць пытанні (не выдаваць гатовыя варыянты, а менавіта фармуляваць іх), патрэбна мова, набліжаная да натуральнай.

— Універсальны семантычны код (УСК) і ёсць варыянт натуральнай, але кананізаванай мовы,— тлумачыць доктар філалагічных навук прафесар Віктар Мартынаў.— Заданне камп'ютэру можна даваць на рускай, англійскай — хоць на суахілі, толькі словы трэба размяшчаць у строга пэўным парадку, а кожнае з іх павінна мець толькі адно значэнне. Далей машына маніпулюе ўжо сімваламі, якія прысвойвае пэўным фразам.

Аднак гэта творчасць усё ж не самай высокай пробы — выканаўчая. А ці зможа машына з дапамогай УСК тварыць па-сапраўднаму? Адказ на гэтае пытанне ўзяліся даць вучоныя і студэнты Мінскага радыётэхнічнага інстытута, якія пачалі пераводзіць на гэтую мову вядомую тэорыю вырашэння вынаходніцкіх задач. Калі задума ўдасца (а першыя вынікі вельмі абнадзейваюць), то не за гарамі дзень, калі камп'ютэр зможа ўпершыню зусім самастойна што-небудзь вынайсці.

Д. ПАТЫКА.

## З ПАДАРОЖЖА ПА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ АМЕРЫКІ

# НЕ РАССТАЛІСЯ Б МЫ З НАШЫМ КРАЕМ

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 51, 52 за 1988 год і №№ 2, 3 за 1989 год).**

Створаны на пачатку 70-х гадоў беларуска-амерыканскі грамадска-культурны цэнтр «Полацак» мае каля 10 гектараў зялёнага луга і лесу. Недалёка ад маленькага, але вельмі прыгожага азярца, абкружанага высокімі стройнымі хвоямі, стаіць аднапавярховы цагляны будынак. У ім жывуць заснавальнікі гэтага беларускага куточка на зямлі Амерыкі Сяргей Карніловіч і Кастусь Калоша. Тут на два дні знайшлі сабе прытулак і мы з Віктарам Скарабагатавым. Прынялі нас як жаданых і дарагіх гасцей. Ціхімі летнімі вечарамі, калі спадала гарачыня і на зямлю апускаўся лёгкі змрок, мне падабалася шпацыраваць па мурожным беразе азярца, слухаць манатоннае стракатанне конікаў, весці простую ціхую гаворку з нашымі гаспадарамі пра жыццё-быццё, і часта здавалася мне, што я не тут, у Амерыцы, а дзе-небудзь у ваколіцах Свіцязі ці Белавежскай пушчы. І прырода, і людзі, і мова — усё было блізкім і нібы з маленства знаёмым...

На тэрыторыі «Полацака» размешчаны яшчэ два будынкі. У адным з іх знаходзяцца апартаменты, дзе жыве Ева Яраховіч, якая так шчодра частавала нас цудоўнай духмянай кавай, а таксама маладыя беларусы з Польшчы Валя і Міраслаў. Другі будынак служыць для правядзення масавых грамадскіх мерапрыемстваў.

Тут усё проста і па-сялянску сціпла. Ніякіх прэтэнзій на шыкоўнасць, раскошу, дарагавізну; роўнымі радамі расстаўлены звычайныя сталы і крэслы; невялічкая сцэна, над ёю — партрэт песняроў беларускага народа Янкі Купалы і Якуба Коласа; ніякіх тоўстых дываноў, ніякіх бутафорскіх дэкарацый, люстраў і канделябраў...

Менавіта ля гэтага будынка надвячоркам 12 жніўня пачалі збірацца людзі. З усіх бакоў чулася беларуская гаворка, даносіліся радасныя словы прывітання, дасціпныя жарты. Па ўсім было відаць, што наведвальнікі «Полацака» добра ведаюць адзін аднаго. Вось прыехала вядомая сярод беларускай эміграцыі пісьменніца Аляксандра Саковіч-Каханоўская. Не так даўно пабачыла свет яе новая кніга «У пошуках праўды», кніга-прытча, кніга-ўспамін пра тое, што было сустрэта на няпростай жыццёвай дарозе... Завітаў сюды святар клілендскай Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Жыровіцкай Багамаці Міхась Страпко...

Тым часам пад'ехалі ў «Полацак» і астатнія члены нашай дэлегацыі.

Адкрыў тую вечарыну Сяргей Карніловіч. Выступіў перад актывістамі, сябрамі і гасцямі «Полацака» і аўтар гэтых радкоў. Я расказаў пра карэнныя зрухі да лепшага, што адбываюцца ў Беларусі, пра шчырае жаданне савецкіх людзей жыць у міры і дружбе з амерыканцамі, пра сваю павагу да «палачан», якія, нягледзячы ні на якія павароты лёсу, зберaглі ў сваіх сэрцах любоў і прывязанасць да зямлі сваіх продкаў, іх традыцыі і звычаі.

А затым на сцэне з'явіўся Канстанцін Кабылінскі. Меладычныя гукі яго баяна, песні і танцы гарэзлівай Надзеі Бабкінай, прыемны голас стрымананага Уладзіміра Мальчанкі прынеслі нямала асалоды слухачам. Але сапраўдным упрыгажэннем праграмы стала ў той цёплы летні вечар выступленне Віктара Скарабагатава. Яго беларуская праграма, што ўключала ў сябе такія песні, як «Нёман» (словы А. Астрэйкі, музыка Н. Сакалоўскага), народныя — «А ў полі вярба», «Зелянеюць лугі», «Кума мая, кумачка», — літаральна зачаравала прысутных. Пачулі тады «палачане» і новую для сябе палескую песню з часоў татарскага палону «Жыў я, быў я, братцы, у багатыра». Па просьбе слухачоў В. Скарабагатаў выканаў песню «Сумныя бярозы» на словы Я. Купалы ў апрацоўцы Р. Пукста. Прагучала ў той вечар і руская песня «Когда я на почте служил ямщиком». Для многіх было прыемнай нечаканасцю паведамленне В. Скарабагатава, што словы да гэтай папулярнай песні належаць ураджэнцу беларускага краю Уладзіславу Сыракомлю...

Было ўжо далёка за поўнач, калі заціхлі песні над возерам «Полацака». Да нас падыходзілі гаспадары, паціскалі рукі, дзякавалі за сустрэчу з роднай песняй, прасілі прыязджаць часцей.

Мяркую, што кіраўніцтва Беларускага таварыства «Радзіма» ўлічыць гэтыя пажаданні і ў будучыні накіруе ў «Полацака» больш пашыраныя творчыя групы беларускіх музыкантаў і спевакоў. Тым больш, што «Полацак» рыхтуецца адзначыць наваселле. Ужо сабраны патрэбныя грошы і падрыхтавана праектна-тэхнічная дакументацыя на будаўніцтва новага сучаснага культурнага комплексу, які будзе ўключаць у сябе вялікую залу, шэраг іншых памяшканняў і царкву. Зараз царква знаходзіцца ў цэнтры Кліўленда, і гэта стварае пэўныя няўручнасці. Есць добрая надзея, што будаўніцтва будзе завершана ў 1989 годзе.

Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква Жыровіцкай Багародзіцы, набажэнства ў якой вядзецца толькі па-беларуску, сваімі сродкамі служыла і служыць справе згуртавання беларусаў у Кліўлендзе. Акрамя свайго асноўнага канфесіянальнага прызначэння, царква займаецца рэчамі, якія як быццам маюць мала агульнага з адпраўленнем культавых рэлігійных абрадаў. Так, у адным з царкоўных памяшканняў жанчыны пякуць беларускія пірагі, якія потым прадаюцца на цэнтральным Кліўлендскім рынку. Гэта дае пэўны прыбытак, які паступае ў агульную касу. У царкве праводзіцца «бінга» (гульня на грошы, якая нагадвае лато), што таксама прыносіць некаторы даход. Пры царкве дзейнічае гурток па вывучэнню беларускай культуры і мовы.

Сёння я з вялікай удзячнасцю ўспамінаю гасцінных прыязных гаспадароў «Полацака», якія зрабілі ўсё, каб дні, праведзеныя ў беларускім цэнтры, былі для нас не толькі прыемнымі, але карыснымі і пазнавальнымі. Разам з Сяргеем Карніловічам, Ірынай Каляда-Смірноф і Аўгенам Кабякам мы зрабілі цудоўныя запамінальныя экскурсіі, пазнаёміліся з горадам.

Я высока цаню дабрыню і ўпартасць Аўгена Кабякі, які стаічна чакаў мяне, калі я праглядаў кнігі на паліцах беларускага аддзела ў цэнтральнай Кліўлендскай бібліятэцы. Там багата беларускіх кніг, шмат з якіх, дарэчы, ахвяраваў бібліятэцы Сяргей Карніловіч. Стаяць зборы твораў Якуба Коласа, Янкі Купалы, Васіля Быкава, Кандрата Крапівы, Івана Мележа, Івана Навуменкі, Пятра Макаля, Алеся Пальчэўскага... Есць там і працы нашых навукоўцаў: Аляксандра Коршунава, Віктара Каваленкі, Адама Мальдзіса, Уладзіміра Мархеля, Алеся Яскевіча... Хораша прадстаўлены нашы энцыклапедычныя выданні. Маюцца, вядома, і кнігі нашых суайчыннікаў: Наталлі Арсеньевай, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва, Антона Адамовіча, Аляксандры Саковіч-Каханоўскай... Зацікавілі мяне і беларускія пераклады з Платона і Марка Аўрэлія, зробленыя Янам Пятроўскім і Міхасём Кавылём...

Пабывалі мы ў скандынаўскім цэнтры з яго цудоўнымі саунамі і блакітнымі басейнамі, з'ездзілі на сельскагаспадарчую выстаўку штата Агаё, наведалі беларускую царкву. Яе будынак, створаны ў арыгінальным беларускім стылі, увянчаны крыжам св. Ефрасінні Полацкай. Высокамастацкім выкананнем вылучаецца алтарная частка і інтэр'ер царквы. У гэтым заслуга руплівага майстра Андрэя Стрэчні...

Паказалі нам і тую сумную, журботную мясціну, дзе завяршаецца зямны шлях кожнага з нас. На Кліўлендскіх гарадскіх могілках «Рыверсайд» беларусы адкупілі сабе пляц, каб і там, дзе пануе вечны спакой, быць разам...

Не хочацца, ой, як не хочацца завяршаць свой расказ пра Кліўленд на такой мінорнай ноце, і я ад усяго сэрца жадаю нашым землякам у гэтым амерыканскім горадзе як мага даўжэй жыць на гэтым свеце, мацаваць свае карані, не растрачваць сілу славянскага духу, радавацца яснаму сонцу, сіняму небу, роднаму слову, жыццю!..

Раніцай 13 жніўня наша машына пакідала Кліўленд...

Цяпер перад намі ляжала дарога ў Чыкага. Павел Ветраў, здаецца, вырашыў зрабіць выклік шматмільнай бетоннай паласе, падбаўляў ды падбаўляў газу, і мы даволі хутка перасяклі Індыяну і ўехалі ў штат Ілінойс. А неўзабаве на гарызонце замаячылі чыкагскія небаскробы. Яны бачны здалёк, за 10—12 міль ад горада. Мясцовыя жыхары ганарацца тым, што менавіта ў Чыкага пабудаваны самы высокі небаскроб Амерыкі.

Чыкага — адзін з буйнейшых гарадоў ЗША. Па колькасці насельніцтва і аб'ёму прамысловай вытворчасці гэты горад уступае толькі Нью-Йорку.

Важнае значэнне мае Чыкага і як культурны і навуковы цэнтр. Сярод яго вышэйшых навучальных устаноў — а іх у Чыкага з прыгарадамі каля 60 — асаблівай папулярнасцю карыстаецца Чыкагскі універсітэт — адзін з лепшых у ЗША, які займае адметнае месца ў выданні навуковай літаратуры.

Далёка за межамі краіны вядомы Чыкагскі музей навукі і прамысловасці, Музей натуральнай гісторыі Філда, акварыум Шэда, сімфанічны аркестр, карцінная галерэя.

Увесь свет ведае рэвалюцыйныя традыцыі горада. Тут у 1870 годзе была створана секцыя І Інтэрнацыянала. 1 мая 1886 года ў Чыкага была арганізавана масавая дэманстрацыя бастуючых рабочых, якія патрабавалі 8-гадзіннага працоўнага дня і паляпшэння ўмоў жыцця. Паліцыя і армія разагналі дэманстрантаў, сярод якіх было шмат забітых і параненых. Чатыры кіраўнікі забастоўкі былі пакараны смерцю. У 1889 годзе на першым кангрэсе ІІ Інтэрнацыянала было прынята рашэнне аб'явіць 1 мая Днём міжнароднай салідарнасці пралетарыяту.

У Чыкага зарадзілася Камуністычная партыя ЗША. Тут прайшла і большасць яе з'ездаў...

У гэтым вялізным шматмоўным горадзе, сярод высокіх муроў і шматтысячнага людскога віру, нас з нецярплівасцю чакалі суайчыннікі, якія сабраліся ў мясцовым «Рускім культурным цэнтры»...

Тут мы мелі цікавыя сустрэчы з суайчыннікамі і амерыканскай грамадскасцю. Як цяпер, бачу перад сабой высокага сівога чалавека. Гэта Павел Лютка — старшыня «Рускага культурнага цэнтра», наш зямляк. Я быў дома ў гасцях у Паўла Ніканоравіча, доўга расказваў яму пра нашу сінявокую Беларусь, пра Мінск. Складаны, але прамы і чэсны жыццёвы шлях прайшоў гэты чалавек. Зведаў беспрацоўе, нястачу і голад, ваяваў з фашызмам у Іспаніі, працаваў на заводзе, сваім мазалём зарабляў сабе на хлеб і да хлеба і заўсёды, як мог, спрыяў патрыятычнай дзейнасці чыкагскай славянскай грамады.

Поруч з ім яго надзейны папечнік і сябар Аляксандр Касевіч, які, дарэчы, з'яўляецца дзядзькам нашай вядомай паэтэсы Раісы Баравіковай. Шмат вады ўцякло з таго часу, як паехаў Аляксандр Касевіч з Беларусі, а і сёння яшчэ сняцца яму родныя гоні...

На сустрэчу з намі прыйшоў і святар Рускай праваслаўнай царквы айцец Уладзімір, які ў свой час меў пэўнае дачыненне да Беларусі. Ён працаваў выкладчыкам Жыровіцкай духоўнай семінарыі, затым пераехаў у Ташкент, а цяпер вось атрымаў прызначэнне ў Чыкага...

Душою чыкагскага «Рускага культурнага цэнтра» з'яўляецца мілая, ветлівая Джун Мека. Вось яна і жартуе, і смяецца, і спявае, а сама хвалюецца, перажывае: хаця каб нічога не сарвалася, каб усё добра было...

Усё было цудоўна, дарагая Джун! І мы вельмі ўдзячны вам за гэта...

Нью-Йорк... Колькі пра яго ўжо напісана! У тым ліку і беларускімі пісьменнікамі!.. А ён зноў і зноў адкрываецца наведвальніку ўсё новымі і новымі гранямі.

У Нью-Йорку мы пабывалі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, выступілі ў «Клубе рускай кнігі», спаткаліся з савецкімі супрацоўнікамі гэтай аўтарытэтнай сусветнай арганізацыі.

А яшчэ запомнілася сустрэча з дырэктарам Нью-Йоркскага інстытута беларускай навукі і мастацтва доктарам Вітаўтам Кіпелем, яго жонкай Зорай і вядомым прадстаўніком беларускай эміграцыі ў Злучаных Штатах доктарам Янкам Запруднікам. З абвостранай цікавасцю распытвалі нашы землякі пра дзень сённяшні Беларусі, пра новыя з'явы і тэндэнцыі развіцця нашай культуры, літаратуры, мовы. Расказалі нам і пра вынікі сваёй дзейнасці па вывучэнню беларускай культурнай спадчыны і яе прапагандзе ў свеце. Тады мне падумалася: нам, беларускім пісьменнікам, навукоўцам, дзеячам мастацтваў, нягледзячы, можа, на палярнасць поглядаў, трэба было б сустракацца часцей з нашымі суайчыннікамі. Гэта было б не толькі ўзаемакарысным, але і важным для спасціжэння гісторыі і сучаснасці нашай агульнай культурнай скарбніцы.

Зора Кіпель наладзіла для нас незабыўную экскурсію па Нью-Йоркскай публічнай бібліятэцы, супрацоўніцай якой яна з'яўляецца. Годна прадстаўлена тут беларуская літаратура. Славянскі аддзел бібліятэкі атрымлівае па сутнасці ўсю нашу беларускамоўную перыёдыку (з рускамоўных перыядычных выданняў бібліятэка выпісвае толькі адно — часопіс «Коммунист Белоруссии»), а таксама ўсе асноўныя кнігі, якія выходзяць у выдавецтвах БССР. Прадэманстравала нам Зора Кіпель высокія эфектыўныя магчымасці даведачна-інфармацыйнай службы, якая дазваляе за лічаныя секунды выявіць наяўнасць пэўнага выдання ў фондах Нью-Йоркскай публічнай альбо іншых буйных бібліятэк краіны. З беларускіх рарытэтаў, якія захоўваюцца тут, можна было б назваць арыгінал (4 лісты) «Кнігі царстваў» Францішка Скарыны (у фотакопіях маюцца ўсе кнігі нашага першадрукара), а таксама камплект газеты «Наша ніва». Нью-Йоркская публічная бібліятэка — адзіная ў ЗША, дзе сабраны поўны камплект «Летапісу друку ў БССР» — прадмет асабістай гордасці Зоры...

Ад той памятнай сустрэчы я берагу каштоўнейшы падарунак — новенькую, толькі што выдадзеную кнігу Зоры Кіпель «The Byelorussian Tristan» («Беларускі Трыстан») — плён вялікай перакладчыцкай і даследчыцкай працы. Перакананы, што гэтая кніга будзе абавязкова заўважана і высока ацэнена ўсімі гісторыкамі беларускай літаратуры...

А на календары тым часам стаяла 18-га жніўня... Праз дзень хуткакрылы «Боінг», імкліва адарваўшыся ад зямлі, узяў курс на Маскву...

**Леанід КАЗЫРА.**

# "VOICE OF THE MOTHERLAND" LIBRARY"




We present to our readers a new book that was published in the «Voice of the Motherland» Library» «Bread and Musik». The book is a collection of poems written by the People's Poet of Byelorussia Nil Gilevich, translated from the Byelorussian by Anisiya Prokofieva.

Nil Gilevich was born in 1931 in Slaboda, a village of the Minsk region. There he went to school and there, at the age of nine, he wrote his first poem. His works began to come out in print in 1946, when he was not yet sixteen.

Nil Gilevich graduated from the Minsk Teachers' Training College and, later, from the Philological Faculty of the Byelorussian State University; then he began to teach Byelorussian Literature. At the same time he took up the study of folklore.

Over a period of twenty-five years Nil Gilevich created poetry that has been published in more than twenty collections. His poetry reflects the feelings and yearnings of his people and his love for life and his native soil, with its lovely, serene nature; of these he writes:

«I love you, Life, I love you well and dearly...»

«My land Byelorussian so precious to me,
The hope and reliance of your son...»

and

«I stroll admiring your landscapes truly fine...»

Nil Gilevich has mastered many genres: his lovely octaves are endowed with delicate musical lyricism and are often of a definitely philosophical tenor; his humour, at times very soft, can also be sharp on occasions. For his publicistic poetry and beautiful translations of Bulgarian poets into his native tongue he has been awarded by the Bulgarian Government the Order of Kiril and Methodius. The reader will find in the present collection the poems «Rose Festival» and «Bulgarian Song», dedicated to Bulgaria.

The poet has also written several books for children and some works connected with the study of folklore.

Today Nil Gilevich — Professor of Byelorussian Philology and Honoured Worker of Science of the Republic, First Secretary of the Board of the BSSR Writers' Union, Laureate of the Botev International Prize for Revolutoinary Poetry and Publicistics — is in the prime of his creative life and his readers anticipate with pleasure the appearance of his new poetic works.

We hope that this [illegible]ook will give you good app[illegible]nity to get acquainted wit[illegible] modern Byelorussian poetry.



*On photo: Students of the Byelorussian Institute of Railway Engineers have their practical training on the train "Pripyat".*
*Photo by E. KOZULA, Y. PAVLOV.*

# FOLK TRADITIONS REVIVED

The BSSR now has over 6,000 clubs and 34,000 amateur groups where people of different ages develop and improve their artistic skills on the basis of traditions which once originated in the villages in peasant households.

Handicraft workshops have been set up on our initative in all regions of the Republic. They bring together people skilled in wood-carving, weaving, pottery, wickerwork, applique work with straw, painting and so forth. Scientific expeditions have helped us determine where these workshops would be most beneficial. They have become our regional methodological centres. Today there are 24 such workshops in the Republic. They have their own facilities and maintain contact with the local organizations. The heads of the handicraft workshops make up the Council of Directors. The Council proposed holding folk craftsmen festivals every autumn. The programmes of such festivals include handicrafts contests, popular folk games, exhibitions, fairs and ceremonies at which the winners are presented with original souvenirs.

The Council of Directors has conducted sociological surveys in localities to find out people's attitude to contemporary folk crafts. This helps draft the programme for the future. Great effort is being made in the Republic to bring to light and preserve such rare crafts as the making of clay toys and painting on cloth.

Byelorussian folk crafts which developed vigorously in the past centuries and which all but disappeared in the middle of this century have noticeably revived lately and continue to develop.

**Alexandra Zezulin is an American of Russian descent. She was born and raised in a small suburb of New York. She graduated from Wellesley College with a BA degree in mathematics and economics. Subsequenly, she received a Master's degree from Columbia University's School of Intenrnational and Public Affairs. She has worked in the banking and tourist industry. In 1984, while studying in Moscow, she met her husband-to-be, Alexander Ushkevich. In 1987, they married and moved to Minsk. In May 1988, upon her request, she was granted Soviet citizenship.**

**Our correspondent asked Alexandra Zezulin to share some of her first impressions of Soviet reality.**

# ANSWERS TO MY QUESTIONS

At the and of summer '87, I moved from New York to Minsk. This May, I became a Soviet citizen. I felt well prepared for the move — my husband is a Soviet citizen, I am of Russian descent, speak Russian fluently, have studied in Moscow and travelled extensively in the USSR.

People usually emigrate, for example, to the United States, because of economic and political reasons. They are escaping their past, feel betrayed or are simply looking for a second chance. There are risks associated with this type of move — an acute sense of dissapointment, failure or regret. These risks did not apply to me. Despite the wide ocean, my move was a natural one. I was joining my husband and simultaneously returning to the only place my family ever termed "motherland". Nevertheless, knowing the Soviet economy and the many unfortunate aspects of Soviet history, I was more than slightly nervous and scared. Would I be able to adjust? Would I be able to see my relatives who remain in America? How about the standard of living, would I have to [illegible]d in long, long lines? What would I eat? W[illegible] I be able to find an interesting and fulfilling job? Would I be able to go to church? Would I feel a news vacuum? Finally, would I feel free?

As an American here, I have never felt any antagonism or discrimination. Neither my pride nor feelings have been hurt. However [illegible] constantly have to deal with two very [illegible]gent, inflated, and naive perceptions of the United States and Americans. Generally, at first, people ask me if it really that "bad" out there. Then they go on to reveal an almost dreamlike, glorified perception of life in the USA.

Yes, unemployment, crime, drugs, discrimination, violence, poverty and other problems exist in the United States. It is fairly easy to explain that this factor of the American lifestyle does not reduce the average American to a robot-like shell. Most Americans are aware of the pitfalls in their system, try to avoid or escape them, if are not attempting to change and reduce them. The second perception of the United States, the inflated opinion, is definitely the more difficult one to live with. All too often I find myself, defensively, explaining that most Americans are not rich. Their clothing is comfortable, practical and attractive because the production of ugly, shoddy items is not profitable (lousy workers do get fired, unprofitable enterprises close). Yes, almost every family owns a new or used car, but in the US it is a necessity and not necesarily a luxury (mass transport is generally either nonexistent, expensive, terrible, crime-ridden or slow). Yes, there is plenty to purchase, but most Americans do count every dollar spent (housing, travel, heating, education, medicine, insurance and taxes of all sorts are terribly high). Americans seem to work much more, more efficiently and more effectively than Soviet people do. This is their work habit, it is not just a matter of pressure. Yes, the rewards of success can be high in the United States, but this success does not simply land in your lap. You have to work hard and be lucky. Life in the US is more competitive and severe then most Soviet people think.

Now back to my fears and preconcieved notions in America, and on to my perceptions of life in the Soviet Union, Minsk specifically. To a large degree, my views have changed because reality here has changed.

My sister, niece and mother have already visited me (their vacations here are a story in itself). I am going to be with them in the US this January (according to US laws I have dual citizenship). The travel process has been simplified.

I do not stand in long, long lines for food. I have stood in them for services (doctor's office, train and airline tickets). Some lines were already familiar, others are incredible but I ignore them (for alcohol and sausage). Instead of pre-planning the menu, as in the US, I buy what is readily available. I cannot count on buying beef, chicken or pork at reasonable prices (that is government and not high, free market prices) exactly when I want to. However, one of the above is usually there without a wait. Forget the wide selection of fresh fish available in many grocery stores throughout the US. Nevertheless, I eat well, without those lines. Health conscious Americans avoid hot dogs, sausage, and bacon — I cannot understand why anybody would queue for that when cottage cheese, lean beef or chicken, milk, eggs, cheese, rice, bread and various noodles are readily available. Not everyone is from afar or planning a long trip. It certainly is not a matter of price. Maybe its because there are few attractive, easy to follow cookbooks on sale? Or people do not know where the can get the nutrients they need? There are hardly any nutrition labels on products.

I do miss year-round lemons, salad and spinach. However, New York's breads and ice creams can not match Minsk's. In NY fresh tomatoes and strawberries are available year-round. However, I would rather eat them only in the summer but have them continue to taste the way they do here (the difference in strawberries is amazing). The only truly upsetting and disheartening aspect of the food situation is the waste that I have seen — large quantities of inedible vegetables and fruit. Before coming here, I had never seen rotten potatoes and onions on sale. It does not matter that the cost, to me, was insignificant — the fact that half had to be dumped remains abismal. This topic is receiving much attention, here, right now. I hope that this problem will soon be solved.

Now back to lines and waits, the US also has them. I do not miss Long Island's week-end and rush-hour traffic jams. It is incredible that I do not have to drive for hours in order to leave the city and suburb environment. Within *minutes* we can leave Minsk's bustle and be surrounded by forests and farmlands. There is something very bequtiful in this, something is lost in the long drive between Washington DC and Boston.

I constantly feel that the Soviet Union is behind the United States in its everyday economic development. However, this lag is not as great as it once seemed. (A refrigerator is a refrigerator even if you do have to defrost it occasionaly.) This lag can be an asset for the Soviet Union. One can adopt the best from the West, reject those things which turned out poorly, had inordinate or unjustified costs, or were accompanied by negative consequences. Let's not repeat the same mistakes twice.

Now on to the "human rights" issues which are usually a key topic for Americans:

At this point, my only complaint with respect to religion is that churches are crowded. I can go freely, but I cannot stand in peace. We are, once again, insulting our roots and our faithful, when we convert churches from warehouses into concert and exhibition halls.

I feel no news vacuum. On the contrary, I feel overwhelmed. I do not have enough time to read, see, hear everything. I do miss local New York news, but I was much more concerned about the 1989 subscription limitations here. The decision to increase the number of copies printed is an active sign of glastnost.

I feel completely free here. I say feel, not am, just as I would have said that in the US. We are all never free from worries, concerns, responsibilities and hopes. Ideally we either choose or respect them. Personal versus collective interests are often in disharmony (eg payment and utilization of taxes, locale and timing of strikes and demonstrations, medical safety and care vs speed and costs, freedom of the press and expression vs pornography and violence, that quiet private little place on the waterfront vs public beaches, etc.) My new citizenship has provided me with new, different concerns about freedom and democracy.

Right now, the Soviet Union is an exciting and inspiring country. The Soviet Union is coming to terms with its past, it is redesigning its present and is planning a new future. Every aspect of life receives a fresh glance, provokes new questions and analyses. Maybe there is still some uncertainty — but it is a time filled with challenges and possibilities. An ideal balance of personal and collective interests is yet to be found. I hope to see it develop here. In any case, the Soviet Union today is one of the most interesting places in the world.

**Alexandra ZEZULIN.**

## СТАРОНКІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# З БЛАКІТНАЙ ПЯЧАТКАЙ «ЗЯМЛІ І ВОЛІ»

Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі было задаволена плёнам дзейнасці губернатара ў Магілёве, бо менавіта ён—сапраўдны стацкі саветнік пан Бяклямішаў — шэрагам ажыццёўленых мер змог распаліць у сялянах губерні адчужанасць, часам нават варожасць да носьбітаў небяспечных ідэй, да прыхільнікаў вызваленчага і рэвалюцыйнага руху. Рашучыя паліцэйскія захады губернатара супраць «крамолы» неаднойчы ставілі ў прыклад суседзям. І сапраўды, вопыту, хвацкага спрыту «яго правасхадзіцельству» не пазычаць.

Вось і 4 сакавіка 1863 года з дзелавітай аператыўнасцю, цвёрдым голасам дыктаваў ён, звёўшы ў напружанні бровы, дзяжурнаму афіцэру:

**«Строга сакрэтна**
**пп. (панам — М. З.):**

**Магілёўскаму паліцмайстру; аршанскаму следчаму; спраўнікам земскай паліцыі Гомельскага, Рагачоўскага, Чэрыкаўскага, Клімавіцкага, Быхаўскага паветаў.**

**З Санкт-Пецярбурга пасланы ў розныя губерні адозвы на рускай мове, што маюць мэту схіліць рускіх на бок мяцежных палякаў, перашкодзіць афіцэрам і салдатам нашай арміі выканаць службовы свой абавязак.**

**На аркушах згаданых адозваў, надрукаваных двума слупкамі, зверху ёсць круглы штэмпель, вакол якога словы: «Русский центральный Народный Комитет», а ў сярэдзіне —«Земля и воля», унізе ж пазначана: «Типография общества З. и В.»**

**Прасачыць, ці не пранікала гэта адозва ў Магілёўскую губерню і якое ўздзеянне яна робіць».**

Прайшло дзесяць дзён, калі ў адным з адказаў сакрэтным парадкам паведамілі, што праклямацыя, аб якой папярэджваў губернатар, знойдзена даглядчыкам Аршанскай паштовай канторы П. Гарадковым пры наступ*ных абставінах*...

13 сакавіка, як звычайна, апоўдні Гарадкоў забіраў для рэгістрацыі і сартыравання карэспандэнцыю, што на працягу сутак трапіла ў паштовую скрынку. Увагу чыноўніка прыцягнуў непадпісаны вузкі канверт, запячатаны чырвоным сургучом «з прыкладаннем герба срэбнай малой манеты». У канверце знаходзілася якраз тая адозва, што нядаўна выклікала губернатарскую трывогу. Уверсе аркуша стаяла блакітная пячатка падпольнай рэвалюцыйнай арганізацыі, пад ёю пачынаўся друкаваны тэкст, дзе, як падкрэслена ў паведамленні губернатару, утрымліваюцца «абуральныя і дзёрзкія выказванні наконт Урада».

...У абагульняючых акадэмічных працах па гісторыі Беларусі паводле ўскосных звестак слушна сцвярджалася, што ў пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя ў заходніх губернях распаўсюджваліся нелегальныя выданні «Зямлі і волі», змест якіх быў вядомы даўно. Але ж у беларускіх архівах арыгіналаў згаданых праклямацый даследчыкі доўгі час не знаходзілі, нічога пэўнага не ведалі і пра тых адважных людзей, хто, рызыкуючы, употай вёз словы праўды на беларускія землі.

Сярод пажоўклых ад няўмольнага часу папер, што дбайна захоўваюцца ў фондах Дзяржаўнага Гістарычнага архіва Беларускай ССР у Мінску, аўтару гэтых радкоў адносна нядаўна пашчасціла адшукаць падпольную праклямацыю землявольцаў.

Трымаю ў руках стандартную, мышынага колеру танюткую папку, дзе на вокладцы нейкі канцылярскі кручок з увайшоўшай у прымаўку чыноўніцкай ахайнасцю ў сакавіку 1863-га акуратна вывеў: «Аб рознага роду абуральных адозвах». Са зразумелай нецярплівасцю спехам гартаю старонкі архіўнай справы... Вось тое, нарэшце, што трэба!

«Абуральная адозва» — знешне нічым непрыкметны, няроўна абрэзаны аркуш матава-шэрай паперы сярэдніх памераў. Хоць друкаваны тэкст чытаецца не ўсюды выразна (магчыма, гэта абумоўлена канспіратыўнымі ўмовамі выдання), дакумент у цэлым добра збярогся. У некалькіх месцах асобныя словы падпраўлены злёгку алоўкам. Зверху над тэкстам — круглая блакітная пячатка з «крамольнымі» надпісамі, менавіта тымі, пра якія паведаміў сваім падначаленым губернатар. Пячатка сумненняў не выклікала ані, а ўсё ж варта паказаць знаходку дасведчанаму ў гэтай галіне чалавеку... Літаральна па міліметрах уважліва разглядаў яе Анатоль Цітоў—тагачасны палеограф архіва, цяпер вядучы спецыяліст у рэспубліцы па пытаннях сфрагістыкі і геральдыкі. Вынік аналітычнай экспертызы станоўчы: пячатка сапраўдная. Можна, значыць, рухацца ўперад, працягваць даследаванне.

...Са спецыяльнай навуковай літаратуры вядома, што «Зямля і воля» — буйнейшая пасля дзекабрыстаў агульнарасійская нелегальная арганізацыя. Узнікла ў першай палове 1861 года для каардынацыі дзеянняў лонданскага (А. Герцэн, М. Агароў) і Пецярбургскага рэвалюцыйных цэнтраў па кіраўніцтву будучым сялянскім паўстаннем у краіне. Стваральнікі — М. Чарнышэўскі і кола ягоных сяброў-аднадумцаў, што гуртаваліся вакол рэдакцыі перадавога часопіса «Современник» (М. Дабралюбаў, М. Шалгуноў, браты М. і А. Серна-Салаўевічы, М. Міхайлаў і інш.). Праграма гэтай падпольнай арганізацыі, што аб'ядноўвала да трох тысяч членаў, раскрыта ўжо ў яе назве. На балючае, самае вострае пытанне «Што трэба народу?» лепшыя людзі царскай Расіі ў адзін голас сказалі тады: «Зямля і воля!». Каб ажыццявіць вялікую мэту, падполле дзёрзка намеціла знішчыць дэспатычны самадзяржаўны рэжым, забяспечыць самавызначэнне народаў, стварыць федэратыўную дэмакратычную рэспубліку з роўнасцю для ўсіх і для кожнага, зямлю перадаць сялянскай грамадзе без усякага выкупу, скасаваць прыватную ўласнасць.


№

ДѢЛО
КАНЦЕЛЯРІИ
МОГИЛЕВСКАГО ГРАЖДАНСКАГО
ГУБЕРНАТОРА.

... по Столу

Началось ... 18 года.
Кончено ... 18 года.

На ... страницахъ.

«Зямля і воля» мела 14 мясцовых аддзяленняў (Пецярбург, Масква, Казань, Перм, Саратаў, Палтава, іншыя гарады), сваю вайсковую арганізацыю, куды ўваходзіў і «Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы» на чале з А. Патэбням (прыкладна 200 чалавек, адзін з іх, у прыватнасці, — капітан Смаленскага пяхотнага палка К. Крупскі, бацька Надзеі Канстанцінаўны Крупскай — будучай жонкі, вернага сябра, загартаванага барацьбой паплечніка Уладзіміра Ільіча Леніна. Адзначым, што капітан Крупскі наўмысна адвёў сваю роту ад баёў з паўстанцамі 1863 года). Неўзабаве пасля стварэння арганізацыі ледзь не ўсё кіруючае падполлем ядро было схоплена і кінута царызмам за краты сумна славутых казематаў самай жудаснай імперскай турмы — Петрапаўлаўскай крэпасці. Тым не менш «Зямля і воля» працягвала жыць, а значыць — змагацца...

Але давайце ж ізноў вернемся да адозвы, якую дастаў з непадпісанага канверта аршанскі паштовы чыноўнік. Яна пачыналася словамі: «Льецца польская кроў, льецца руская кроў...» Пад такой назвай дакумент пазней увайшоў у летапіс сумеснай рэвалюцыйнай барацьбы суседніх народаў — рускага і польскага. Паяўленню адозвы (дарэчы, першай, выпушчанай ад імя «Зямлі і волі» і пазначанай блакітнай пячаткай Рускага Цэнтральнага Народнага Камітэта) папярэднічалі бурлівыя палітычныя падзеі. У векапомную ноч на 23 студзеня 1863 года пачалося польскае вызваленчае паўстанне, і, натуральна, рускія рэвалюцыянеры былі абавязаны адразу ж выказаць сваё стаўленне да яго. Недвухсэнсовая, адкрытая пазіцыя ўсебаковай падтрымкі палякаў выразна бачна ўжо з першых радкоў, дзе падкрэслена, што паўстанне абумоўлена антынароднай палітыкай царызму, для якога свабода палякаў — уласная гібель. Таму воінаў рускай арміі, якіх цар накіроўваў у Польшчу з карнаю мэтаю, землявольцы заклікалі: «...з вызваленнем Польшчы цесна звязана свабода нашай пакутлівай радзімы,.. апусціце свой меч на агульнага ворага нашага... ідзіце да нас, [illegible]аю айчыну, вызваляць яе ад вінаўніка ва ўсіх народных бедствах — імператарскага ўрада».

Але хто ж распаўсюджваў адозву? Справа, знойдзеная ў мінскім архіве, не дае на гэта адказу. Значыць, трэба паспрабаваць далучыць звесткі з іншых крыніц...

У спецыяльнай літаратуры пераканаўча даказана, што «Льецца польская кроў, льецца руская кроў...» разам з большасцю антыўрадавых праклямацый таго перыяду нелегальна друкавалася ў Пецярбургу. Можна было дапусціць, што канверт у паштовую скрынку аршанскай канторы апушчаны некім з пасажыраў дарогай са сталіцы. Расклад руху паштовых карэт (яны вазілі карэспандэнцыю, грошы, людзей) па станцыі Орша на 1863 год маецца ў адпаведнай «Памятнай кніжцы Магілёўскай губерні». Пайшлі вылічэнні, супастаўленне мноства адасобленых фактаў, пакуль канчаткова не высвятлілася: абраны шлях нічога істотнага не абяцае, бо звестак аб рэгістрацыі прыватных і службовых асоб, якія праехалі тут з Пецярбурга ў канцы лютага — пачатку сакавіка 1863 года, не захавалася. Верагодней за ўсё, такога ўліку не вялося зусім. Няўжо давядзецца спыніцца на палове дарогі?

Дапамог, як гэта часта здараецца, выпадак. Далейшы і, адзначым, удалы напрамак пошукаў падказаў беларускі пісьменнік Генадзь Кісялёў, навуковец куды больш дасведчаны, вядомы даследчык гераічнай мінуўшчыны роднага краю. Раней ён з'яўляўся адным з навуковых рэдактараў фундаментальнага збору дакументаў, выдадзеных Акадэміяй навук СССР да сотай гадавіны паўстання 1863 года, і добра памятаў (гэта праз дваццаць гадоў!), што ў зборы ёсць звесткі пра прыцягненне да крымінальнай адказнасці за распаўсюджванне адозваў «Зямлі і волі» ў Оршы Васіля Катырлы, а невялічкі артыкул аб ім нядаўна змешчаны ў Кароткай БелСЭ.

Аналіз разнастайнага, даволі багатага і грунтоўнага матэрыялу, раскіданага па мноству крыніц, паступова дазволіў скласціся светламу вобразу гэтага нашага земляка — гарачага патрыёта і мужнага рэвалюцыянера. Кропля за кропляй гістарычныя дакументы ўзнаўлялі яркія моманты ягонай самаадданай і самаахвярнай дзейнасці.

...Васіль Катырла — дваццацічатырохгадовы вольны слухач Пецярбургскага універсітэта, член сталічнага аддзялення «Зямлі і волі», у пачатку сакавіка прыехаў у Оршу з Віцебска з мэтай разгортвання антыўрадавай прапаганды, каб знаходзіць і аб'ядноўваць на месцах надзейных людзей.

З добраахвотных паказанняў аршанскаму гараднічаму (паліцэйскі чын у сярэдніх гарадах тагачаснай Расійскай імперыі) М. Савініча, які аказаўся баязліўцам і здраднікам, вынікае: Катырла «паведаміў, што прыбыў у Оршу з Віцебска па даручэнню ад камітэта прапагандаваць мяцеж і падбіраць асоб, якія гатовы ў ім удзельнічаць, і затым прапанаваў яму, Савінічу, заняцца тым жа, параіўшы складаць... дзесяткі і, узяўшы ад кожнага з дзесяці клятву, даручыць ім складаць свае дзесяткі, абвяшчаючы ўсім.., каб яны рыхтавалі ўзбраенне, бо паўстанне павінна пачацца ў канцы красавіка ці пачатку мая».

Тым часам Катырла, не здагадваючыся пра здраду і не адчуваючы набліжэння небяспекі, працягваў выконваць даверануюяму справу. Днём 12 сакавіка на гарадской плошчы Оршы ён сустрэў радавых 3-й зводнай артылерыйскай брыгады Ігнацьева і Гудкова, уручыў салдатам «пісьмо без адраса... Ігнацьеў перадаў згаданае пісьмо фельдфебелю, а апошні — брыгаднаму камандзіру палкоўніку Мухіну, і пасля распячатання з (канверта)... даталі 1 экз. (экземпляр) абуральнага часопіса «Зямля і воля» з пячаткай рэвалюцыйнага таварыства той жа назвы».

Назаўтра пасля 9 гадзін раніцы на 7-й вярсце Віцебскага тракту квартальны паліцэйскі наглядчык з дапамогай Савініча затрымаў Васіля Катырлу. Пры вобыску ў яго знайшлі пяцізарадны рэвальвер, пашпарт, выпісаны 1 лістапада 1862 года віцебскім павятовым спраўнікам і адозву з блакітнай пячаткай «Зямлі і волі». На вочнай стаўцы Савініч і двое салдат мясцовага гарнізона, якім за дзень да арышту Катырла перадаў праклямацыю, яго апазналі. Абвінаваўчых фактаў для доўгай катаргі назбіралася шмат, не абабрацца...

Аднолькавы спосаб распаўсюджвання адозваў у Оршы (у запячатаным канверце малога фармату, без адраса), якім карыстаўся рэвалюцыянер, супадзенне падзей па часе — усё гэта пераканаўча сведчыць, што ў скрынку аршанскай паштовай канторы праклямацыю «Зямлі і волі», знойдзеную намі ў мінскім гістарычным архіве, раніцой 13 сакавіка, пакідаючы горад, апусціў В. Катырла.

У ходзе дазнання на бясконцых, пакутлівых допытах арыштаваны трымаўся цвёрда, паказанняў не даў, заяўляў, што «адозву знайшоў у Оршы на плошчы». Жандары на працягу цэлых дваццаці месяцаў болей ніводнага слова ад яго так і не дамагліся. 11 лістапада 1864 года віленскі часовы палявы аўдытарыят—надзвычайны орган карнай палітыкі царызму ў адносінах да паўстанцаў, які вынес мноства найцяжэйшых прысудаў, у тым ліку і смяротны прысуд Кастусю Каліноўскаму—пастанавіў: «Дваніна Катырлу за... злачынства пазбавіць дваранскай годнасці і ўсіх правоў (саслоўнага) стану і саслаць у катаржную работу ў крэпасцях на 10 гадоў, а маёмасць... канфіскаваць у казну».

Распаўсюджванне праклама ц ы й «Зямлі і волі» нашым земляком, беларусам з Віцебшчыны Васілём Катырлам, сярод салдат і гараджан у Оршы — зусім не выпадковы штрых тагачасных рэвалюцыйных працэсаў у краіне. Яшчэ напярэдадні скасавання прыгону многія выхадцы з Беларусі, якія вучыліся ў сталічных вышэйшых навучальных установах, зблізіліся з правадырамі рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі, з колам іх аднадумцаў-прыхільнікаў, што трохі пазней склалі ядро агульнарасійскага рэвалюцыйнага падполля. Сумесная барацьба вялікіх рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў разам з іх беларускімі паплечнікамі з агульным, лютым ворагам двух братніх народаў — царызмам, руска-беларускія рэвалюцыйныя сувязі эпохі падзення прыгонніцтва—цікавая, важная старонка нашай Гісторыі. Некалькі радкоў на гэтую старонку з гонарам упісаў і Васіль Катырла. Сёння мы ведаем пра яго пакуль што нямнога. Таму кропку не ставім, пошук працягваецца...

**Мар'ян ЗАЙЦАЎ.**

У МАСКВЕ АРГАНІЗАВАНА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

# ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Услед за грузінскім культурна-гандлёвым цэнтрам на Арбаце, таварыствам «Славуціч», якое аб'ядноала прыхільнікаў украінскага мастацтва, цэнтрамі татарскай, армянскай, яўрэйскай культуры ў Маскве ўзнікла і Таварыства, якое павінна задаволіць духоўныя запатрабаванні беларусаў, што жывуць у сталіцы СССР.

«Тако ж и люди, где изродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають». Гэтыя словы Ф. Скарыны як завяшчанне прыпаміналіся на ўстаноўчай сустрэчы беларусаў-масквічоў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, якія стварылі 30 снежня 1988 года, у пярэдадзень 70-годдзя БССР і КПБ, Маскоўскае Таварыства Беларускай Культуры. Сваім духоўным патронам Таварыства назвала Францішка Скарыну, выдатнага беларускага, усходнеславянскага гуманіста-асветніка і першадрукара, чый 500-гадовы юбілей з дня нараджэння (1490 год) па рашэнні ЮНЕСКА шырока адзначаецца сусветнай грамадскасцю. Але пяшчота, любоў да роднай зямлі, адзначалі ўдзельнікі сходу, выклікае не толькі замілаванне яе багаццем і славай. Гэта і душэўная трывога за шматлікія страты, выкліканыя абыякавасцю да роднай мовы, роднай прыроды, спадчыны продкаў, да ўсіх тых высокіх каштоўнасцей, якімі спакон веку жыве і ўдасканальваецца народ і забыццё якіх вядзе да духоўнага збяднення. Заснавальнікі культурнага Таварыства імя Скарыны і паставілі сваёй мэтай, як вынікае з прынятага сходам статута, падтрыманне сярод беларусаў, якіх толькі ў Маскве каля 60 тысяч, пiетэту да нацыянальнай мовы, расшырэнне ведаў аб культуры, гісторыі Беларусі, яе шматвяковых сувязях з народамі Расіі, Украіны, Польшчы, Прыбалтыкі, з іншымі краінамі і народамі і, вядома ж, усямернае садзеянне трывалым духоўным сувязям з Беларускай ССР, усім беларускім этнасам. У праграмных наметках самадзейнай арганізацыі — курсы, класы беларускай мовы, народны універсітэт гісторыі Беларусі, распаўсюджанне беларускай кнігі, перыёдыкі, розныя навуковыя і культурна-мастацкія задумы, клопат пра мемарыяльныя і памятныя мясціны ў Маскве і яе наваколлі, звязаныя з выдатнымі старонкамі і імёнамі з мінуўшчыны Беларусі, руска-беларускага брацтва.

Ідэяй народнага асветніцтва, патрыятызму прасякнуты зварот удзельнікаў устаноўчага сходу Таварыства да беларусаў Масквы і Падмаскоўя.

«Сягоння шмат каторы беларус зразумеў: на дне высахлай ракі жывога мацярынскага слова настае немінучы духоўны скон. Не дзеля сытасці, а дзеля вечнасці родзіцца і жыве чалавек. Дзеля вечнасці ўзнікаюць і развіваюцца народы. Гэтую праўду пераказаў нам волат беларускага духу Францішак Скарына, які паўтысячай гадоў раней прапісаў свой народ на скрыжалях сусветнай культуры.

Аб'яднаныя імем славутага гуманіста-асветніка, мы хочам, як і ён, аддана служыць сваймy народу, мілаваць мову, традыцыі, звычаі продкаў, мацаваць мір і прыязнь між народамі.

Лічым, што беларус не можа, не павінен заставацца утрыманцам іншых моваў і культураў, забываючы ці выракаючыся мовы, культуры бацькоў, дзядоў, прадзедаў. У супольны інтэрнацыянальны дом беларусы — дзе б ні пражывалі — могуць і павінны несці свае спрадвечныя скарбы, каб па праву карыстаць з духоўнага багацця другіх народаў».

Добрыя пажаданні Таварыству імя Францішка Скарыны, гатоўнасць падтрымаць яго пачынанні выказалі ў прывітальных тэлеграмах Саюз пісьменнікаў, Фонд культуры Беларусі, асобныя вучоныя, [illegible]еннікі, мастакі, кампазітары [illegible]эспублікі. «Сейце ж, браты і сёстры, Скарынінскія ідэі пр[illegible], прыгажосці і дружбы п[illegible] народамі! Гатовы дзейніч[illegible] разам з вамі!», — гаворыцца ў адной са шматлікіх тэлеграм.

Успаміналася на с[illegible]е і аб тым, што ў Маскве ў 1918—1919 гадах дзейнічала Беларускае навукова-культурнае таварыства, арганізатары якога, вядомыя вучоныя, дзеячы культуры М. Любаўскі, І. Дыла, Ф. Турук, В. Качалаў (Шверубовіч), У. Пічэта, М. Янчук аказалі неацэннае садзейнічанне духоўнаму адраджэнню Беларусі на пераломным этапе яе гісторыі. Гэтае навастворанае Таварыства працягвае перарваную, але не забытую традыцыю, паказаўшы яшчэ адну рэальную прыкмету адраджэння ленінскіх асноў у нацыянальным развіцці і міжнацыянальных адносінах нашай краіны.

**Аляксей КАЎКО.**





Беларуская зямля гасцінна прыняла дзяцей з братняй рэспублікі, якую спасцігла прыродная катастрофа. У піянерскім лагеры «Зубраня» жывуць, вучацца і адпачываюць школьнікі, эвакуіраваныя з Арменіі. Нядаўна ў піянерскім лагеры на Нарачы пабывалі ўдзельнікі харавой капэлы Армянскай ССР.

НА ЗДЫМКАХ: у зале гучыць песня «Краіна Арменія мая» ў выкананні харавой капэлы; імправізаваны канцэрт з удзелам дзяцей вядзе артыстка Анаіда САРКІСЯН.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## *З НОВЫХ ВЕРШАЎ*

**Максім ТАНК**

### НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК

Пашчасціла і сёлета:
Дзед Мароз на Новы год
Не забыў падарыць
365 новых дзён і начэй мне.

Толькі нешта ніяк
Не патраплю так
Размеркаваць,
Каб хапіла іх мне
На сяўбу,
На жніво,
На сустрэчы,
Бяседы з сябрамі,
На вандроўкі па свеце,
Сусвеце.
Можа, я збіваюся з ліку!
Але хутчэй за ўсё,
Што Дзед Мароз
У дзіравым мяху
Нёс мае дні і ночы
І не ўсе іх
Праз гурбы, завеі
Данёс да мяне.

* * *

Кахання ад людзей не ўтоіш.
І ўсё ж доўга ніхто
Не здагадваўся аб нашых стрэчах,
Бо ты так умела на іх
Непрыкметна прыбегчы,
Што і весніцы не паспявалі
Са здзіўлення прарыпець,
І пыл на вуліцы ўзняцца,
І трава шалахнуцца,
І з калосся апасці раса,
Як пасля соннага подыху ветру,
Ці пралёту ластаўкі,
Ці прамільгнулай
Зоркі.

### ПАСЛЯ ЎБОРКІ

Заўжды прашу:
не прыбірайце
Мой стол. Ды зноўку нехта кнігі
З часопісамі ўладкаваў.
Сцёр пыл,
забраў чай недапіты,
Букет паставіў недарэчны,
Акуркі з попельніцы вытрас
(Сябры да раніцы дымілі),
А накіды ўсе і нататкі
З чарнавікамі маіх вершаў
Так пераблытаў, што не знаю,
Як адшукаць, састыкаваць як
З каардынатай рытмаў рыфмы,
Дзень сённяшні і дзень наступны.

**Пятро ЛАМАН**

### СТАРЫ МЛЫН

На далёкай мяжы
Паміж мною і гостраю зоркай
Узыходзіць, палае пад ветрам
Гаючы палын.
На далёкай мяжы
Паміж мной і ўтравелым пагоркам
На змялелай рацэ
Ёсць вялізны разбураны млын.

Што малолася ў ім,
Мне ніколі ніхто не раскажа,
Камяніскі маўчаць,
І аціхла святая вада.
З павуцін забыцця
На аснову сукаецца пража,
Каб заткаць, прыхаваць
Тое месца, дзе спее бяда.

Над зубамі мурoў
Узнімаецца цьмяная поўня,
Цішыня высвае у сэрцы
Самоту і страх.
І часамі здаецца,
Што гэта не млын, а катоўня.
Мары,
мужнасць і кроў
Камянеюць у гэтых мурах.

Дзе раўлі вадаспады,
Дзе вірамі глыталіся хвалі,
Там сягоння вада на прыволлі
Як мёртвая спіць,
Зарастае травой,
Зацвітае,
Лілеі люляе,
Забывае чысцець
І нарэшце забудзе забыць.

На змялелай рацэ
Ёсць вялізны разбураны млын.
На далёкай мяжы
Паміж мной і ўтравелым пагоркам
Узыходзіць, палае пад ветрам
Гаючы палын.
На далёкай мяжы
Палыном разгараецца зорка.

### ДОМА

Маўклівы спакой.
Закацілася сонца.
Ружовай ракой
Разлілася бясконцасць.

Жывою драбніцай
У гэтым патоку
Спрабую прабіцца
Да ўласных вытокаў.

Закіданы нівы
Замшэлым каменнем.
Разблытваю звівы
Былых пакаленняў.

Спрабую прапісацца
Глухою ракою.
Спрабую, як вызначыцца,
Вучыцца спакою.



Пра прыгажосць палескай зямлі, сённяшні дзень роднага краю, яго гісторыю, людзей расказваюць аматарскія фільмы народнай самадзейнай кінастудыі «Крыніца», якая працуе пры Доме культуры саўгаса «Новае Палессе» Салігорскага раёна. Каля 50 студжак стварылі яе ўдзельнікі. «Крыніца» — лаўрэат другога Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, неаднаразовы пераможца абласных і рэспубліканскіх конкурсаў. Цяпер творчая група кінастудыі стварае новы фільм аб працаўніках саўгаса.

НА ЗДЫМКУ: творчая група кінастудыі на здымцы.

# ВАР'ЕТЭ Ў МІНСКУ

У сталіцы рэспублікі адкрылася вар'етэ. Менавіта так можна вызначыць амплуа новага тэатра-студыі «Мюзік-хол», які гасцінна расчыніў дзверы для тых, хто любіць шоу. У праграме маладзёжнай трупы — кардэбалет, які паказвае танцы ў сучасных рытмах, вакалісты, музыканты-віртуозы.

— Мы ўжо далі шэфскі канцэрт калектыву інстытута «Белгіпрасельбуд», у якога арандуем памяшканне,— гаворыць мастацкі кіраўнік «Мюзік-хола», былы балетмайстар Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Юрый Лапша. — Тое, з якім захапленнем нас прынялі першыя гледачы, усяляе надзею. Для нас гэта асабліва важна, бо наш тэатр — прадпрыемства гасразліковае.

У планах тэатра-студыі — кожны вечар музычна-пацешальныя спектаклі, пастаяннае абнаўленне праграм, падрыхтоўка да гастролей у Прыбалтыцы. І рэпетыцыі, рэпетыцыі, таму што ў перыяд станаўлення «Мюзік-хола» важна запомніцца гледачу, пакарыць яго, а гэта даецца акцёрам толькі праз упартую працу.

## АМАТАРАМ ПРЫРОДЫ — РАДАСЦЬ

# ПАД ТРЭЛІ САЛАЎЯ

Гэта была сапраўды казачная краіна птушак: насельнікі Еўропы і Аўстраліі, Амерыкі і Афрыкі, Скандынавіі і Кітая — ад велічнага, гордага і ўпэўненага ў сабе прыгажуна Чырвонага Ара з паўднёвай Амерыкі даўжынёй 80 сантыметраў — з ім цікава было пагутарыць—да адной з самых маленькіх нашых птушак — непаседлівага шасціграмовага каралька ростам 9 сантыметраў. 10 дзён працягвалася мінская выстаўка «Птушкі-89», і ўвесь гэты час не змяншаўся чарга дарослых і дзяцей, якія імкнуліся сустрэцца з цікавым і непаўторным, надзвычай багатым светам птушак.



— У раздзеле пеўчых і дэкаратыўных птушак выстаўлена звыш 120 прадстаўнікоў фауны СССР і зарубежных краін, — расказвае старшыня секцыі Мінскага клуба аматараў птушак А. Рудамётаў. — Асабліва багаты раздзел канарэек, папугаяў, шчыглоў...

Ад клетак з лімоннымі, шэрымі, белымі, рознакаляровымі канарэйкамі чуецца посвіст, звонкі пошчак, трэлі. Да 25 кален адрозніваюць спецыялісты ў аўсяначным напеве канарэйкі. Толькі такія знаўцы, як суддзя-эксперт першай катэгорыі па ацэнцы спеву канарэйкі І. Басіхес, могуць па заслугах ацаніць іх—тут ёсць свае чэмпіёны, уладальнікі вялікіх і малых бронзавых і сярэбраных медалёў.

Заслужаным аўтарытэтам сярод птушкаводаў карыстаецца Я. Масцераў — старшыня секцыі галубаводаў. Ён выгадаваў голуба пароды паўлінавы белы, які стаў чэмпіёнам міжнароднай выстаўкі ў Сочы ў 1988 годзе. Увагу наведвальнікаў нязменна прыцягвалі ўдзельнікі той прэстыжнай выстаўкі, права выступаць на якой было нялёгка заваяваць. Цяжка адарваць вочы ад гэтых з выгляду ганарыстых, але такіх мірных птушак...

У свеце існуе каля 150 парод галубоў, з іх звыш 50 — у нашай краіне. З цягам часу тысячы пароды знікаецца ў выніку мутацыі, трацяцца прыродныя ўласцівасці. Спецыялісты-галубаводы падтрымліваюць якасць пароды шляхам адбору, селекцыйнай работы. Так, у выніку амаль 30-гадовай работы беларускім галубаводам удалося вывесці новую пароду — мінскія бярозавыя.

Бела-ружовыя, пярэстыя, з шакаладным ці мармуровым адценнем, надзвычай прыгожыя, яны сапраўды нагадваюць колер маладой бярозкі на ўзлеску ў дзень ранняй вясны, калі яна ўпершыню пасля доўгай зімы [illegible]тлена сонцам...

Вялікую работу правялі энтузіясты секцыі аматараў птушак пры Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага таварыства аховы прыроды за амаль 30 гадоў існавання. Галоўныя яго задачы — прапаганда, селекцыя, ахова прыроды... Раней толькі маглі марыць пра міжнародныя выстаўкі, цяпер — паўнапраўныя яе ўдзельнікі. Аматары рыхтуюцца да выстаўкі дзікіх птушак, выведзеных у няволі.

Паступова птушкаводы адыходзяць ад чыста аматарскіх пачаткаў. Яны ставяць задачу не толькі браць ад прыроды, але і даваць ёй. Узнаўляюць рэдкія і знікаючыя віды, паляпшаюць іх, у прыватнасці, галубоў, дэкаратыўных птушак. Праводзяць племянную работу з папугаямі, ткачыкамі. Уся работа грунтуецца на навуковай аснове, пад кіраўніцтвам спецыялістаў секцыі арнітолагаў пеўчых і дэкаратыўных птушак.

**Васіль ФЕ[illegible]Ц.**



Перамогай савецкіх юніёраў завяршыўся чэмпіянат свету па хакею, які прайшоў у ЗША. У заключным матчы наша зборная выйграла ў канадцаў —7:2. За каманду СССР выступаў і мінскі дынамавец Уладзімір Цыплакоў.

Яшчэ адзін выхаванец беларускга хакея — Кавалёў быў запрошаны ў алімпійскую зборную Савецкага Саюза, якая правяла некалькі сустрэч у Канадзе. Нашы спартсмены тройчы перамаглі гаспадароў у пяці гульнях—6:3, 7:4, 3:2 (прычым, Кавалёў закінуў чатыры шайбы), а пасля выйгралі міжнародны турнір «Кубак Саскачавана».

М. Якімовіч і К. Шараваў былі ў ліку лепшых ігракоў у гандбольнай камандзе СССР, якая выступала ў міжнародным турніры ў Іспаніі. Нашы спартсмены перамаглі іспанцаў, швейцарцаў, кубінцаў і занялі першае месца.

Польскі горад Плоцк стаў месцам правядзення міжнароднага турніру па бадмінтону. Вялікага поспеху тут дамогся Алег Маразевіч з Мазыра. У пары са спартсменам з Омска Сяргеем Мельнікавым ён выйграў спаборніцтва сярод дуэтаў.

А гэта паведамленне зацікавіць аматараў біятлона. У лютым у Раўбічах пад Мінскам пройдзе чэмпіянат свету. Гэта ўжо не першыя спаборніцтвы такога рангу, якія праводзяцца на вядомым спорткомплексе.

Дарэчы, новым прэзідэнтам Міжнароднага саюза сучаснага пяцібор'я і біятлона выбраны Ігар Новікаў (СССР). На гэтай пасадзе ён замяніў 84-гадовага шведа Свена Тофельта.

НАШЫ ЗАХАПЛЕННІ

## І ЦАЦКА, І СУВЕНІР

Свята горада, якое адбылося летась у Мінску, вывела шмат людзей на вуліцы. Большая частка прыйшла на праспект Машэрава, а ў парку Янкі Купалы сабраліся мастакі і аматары мастацтва. Тут я і пазнаёміўся з цудоўным майстрам з Лагойска.

Сямён Саўрыцкі выставіў на столік каля сотні мініяцюрных гліняных вырабаў. Частка іх была аздоблена арнаментам, частка — без яго, усе — рознага памеру і адценняў. Такое хараство! Недзарма ля століка ганчара сабраўся натоўп.

Прыгледзеўся ўважліва да гаршчочкаў і я. Майстру ўдалося дабіцца багатай гамы колераў, а самі формы яго вырабаў нагадваюць традыцыйную беларускую кераміку. Праўда, часам сустракаюцца і хібы: парушаны прапорцыі асобных збаной, гаршкоў, недзе занадта рэзка адагнуты венчык, арнамент пасярэдзіне тулава, замест таго, каб ісці па плечыку.

Разгаварыўся з майстрам. Аказваецца, ганчарствам ён займаецца зусім нядаўна. А дачка вучылася на кераміста. Таму зрабіў дома круг. Захацелася выпрабаваць новую прыладу. У першы вечар неадцэнтраваная грудка зляталa з круга. Так самавукам і стаў ганчаром. Паступова новая справа захапіла. Пабудаваў печ, у якой абпальвае свае вырабы на дровах, таму яго вырабы маюць колеры ад белага да вішнёвага, у адрозненне ад тых, якія абпальваюцца ў муфельнай печы. Нявк завёз у Мінск, паказаў некалькі міні-гаршчочкаў. З таго часу вырабы з яго ўласнай пячаткай можна сустрэць у магазіне Мастацкага фонду.

**І. СІНЧУК.**

*РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

## СТУДЗЕНЬСКІ ВОДАР

Калі надыдзе маркотнасць, іду ў лес. І вось я на прасецы: дарожка роўная. Вузкая стужка неба вісіць над галавою, як блакітная празрыстая страха казачнага палаца.

Злева змешаны лес: бялюткія бярэзіны, шэрыя асіны, густыя ялінкі, ахутаныя пухкім снегам. Пахне густым лясным халодным водарам.

Справа высокія роўныя хваіны, нібы калоны, моцна ўраслі ў зямлю, засланую белым покрывам. Голыя ствалы блішчаць цёмна-жоўтаю карою, а вечназялёныя кроны ўверсе шэпчуцца ад непрыкметнага студзеньскага подыху.

Гэты шэпт не парушае лясной цішыні і казачнага спакою. «Але не зусім жа вымер лес і ў гэтую пару»,— толькі падумаў, як недзе ў бары пачуўся аднатонны працяглы голас жаўны: ці-і-і, ці-і-і, ці-і-і, а потым блізка дзяцел застукаў кароткімі чэргамі.

Прасека вывела на ўскрай лесу, на бераг Нёмана, які, утаміўшыся за лета, адпачывае пад лёдам. Над ім панавала сумная цішыня. Як вока бачыць — шэрае неба, прыкрытае роўнымі хмарамі, якія прыкметна цямнеюць і цямнеюць. Гэта надыходзіў студзеньскі марозны вечар. На голле нёманскіх лоз садзілася першая шэрань.

«Ніякай штучнасці , ніякага падману», — падумаў і пайшоў на дарогу з ціхуткай незадаволенасцю. Прайшоўшы, затрымаўся, падставіў подыху ветру твар. Ён шчыпаў шчокі і нос, цемень гусцела і гусцела. Не згледзеў, як у небе паміж хмарамі засвяціліся першыя няяркія зорачкі.

Прытаміўшыся, вярнуўся ў вёску, убег у хату з дрыготкай ад холаду, прысланіўся шчакою да цёплага стаяка і рукамі пагладзіў ласкавую кафлю.

Што ні кажыце, а хатняе цяпло, як і паветра Радзімы, ласкавае, гаючае.

**Яўген КРАМКО.**

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### КАЎБАСА БУЛЬБЯНАЯ З САЛАМ

**Сырую бульбу сцерці на дробнай тарцы, пасаліць. Нарэзаць кубікамі сала, падсмажыць яго разам з рэпчатай цыбуляй і змяшаць з бульбянай масай. Прыгатаваць каўбасу: прамыць кішку, напоўніць яе бульбянай масай, пасля чаго завязаць. Каўбасу абсмажыць на змазанай тлушчам патэльні і паставіць у духоўку на 20-30 мінут. Падаць гарачай.**

**16 штук бульбін, 2 цыбуліны, 300 грамаў сала, 50 сантыметраў кішкі, соль.**

### СУП МАЛОЧНЫ З КЛЁЦКАМІ

**Сырую бульбу сцерці на дробнай тарцы, адціснуць праз марлю, дабавіць яйка. З атрыманай масы зрабіць невялікія шарыкі. Малако давесці да кіпення, апусціць клёцкі і варыць на малым агні. Гатовы суп пасаліць і заправіць маслам.**

**12 штук бульбін, 8 шклянак малака, 1 яйка, 1 сталовая лыжка масла, соль.**

### ТЭФТЭЛІ ВЯСКОВЫЯ

**Мяса свіное і ялавічыну прапусціць праз мясарубку. З рысу ці грэчкі прыгатаваць рассыпістую кашу, цыбулю падсмажыць. Усё перамяшаць, дабавіць яйкі, спецыі, соль. З атрыманай масы сфармаваць шарыкі, запаніраваць іх у муцэ і абсмажыць. Тэфтэлі пакласці ў адзін рад на бляху, заліць таматным соусам і тушыць да гатоўнасці.**

**180 грамаў свініны, 200 грамаў ялавічыны, 2 сталовыя лыжкі грэчкі ці рысу, 2 цыбуліны, 1 яйка, 1 сталовая лыжка мукі, 1 сталовая лыжка тлушчу, 1 шклянка таматнага соусу, спецыі, соль.**

## БЮСТ У ПАДАРУНАК

З увагай сачыў у Мінску за сумесным палётам на борце арбітальнага комплексу «Мір» французскага і пяці савецкіх касманаўтаў скульптар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Іван Міско. Для яго гэта таксама была гарачая пара — завяршэнне работы над партрэтам Жан-Лу Крэцьена. Іван Якімавіч спяшаўся выканаць скульптуру да заканчэння касмічнай вахты свайго французскага сябра. Майстар абяцаў сустрэць Жан-Лу Крэцьена ў Зорным і прыгатаваў у падарунак яго гіпсавы бюст.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44,
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80,
33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 105